*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
*Якуб КОЛАС*

№ 95 (4244)

1 снежня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ

Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для “Народнай Волі”

## «Справа патрыётаў»: хто адкажа за лухту?

Ну вось, што і патрабавалася давесці. “Справа патрыётаў” (або справа “Белага легіёна”) аказалася поўнай лухтой, ці, як цяпер модна казаць, фэйкам. Прычым, без перавелічэння, гэта фэйк года.

Пра спыненне справы абвясціў 30 лістапада кіраўнік Следчага камітэта **Іван Наскевіч**. Прыкметы таго, што ўлады наважыліся спусціць гучную справу на тармазах, былі заўважныя яшчэ ўлетку. Тады адпаведныя тэчкі перадалі з КДБ у Следчы камітэт, а фігурантаў (напачатку ўзялі аж 35 чалавек) сталі пакрысе цішком выпускаць з-за кратаў.

Прычым апошніх выпусцілі акурат перад ліпеньскай сесіяй Парламенцкай асамблеі АБСЕ ў Мінску. Улады відавочна не хацелі даваць дадатковыя падставы для крытыкі розным зубастым заходнім дзеячам, што з’язджаліся да нас на важнае мерапрыемства. Так што фігурантаў справы ад горшага лёсу ўратавала, у прыватнасці, зацікаўленасць беларускага кіраўніцтва і далей гуляць на еўрапейскім вектары. Так што тут меў месца халодны разлік, а не прыступ гуманізму.

Ну і, потым, пратэсты “дармаедаў” былі ўжо задушаны. Галоўная ж задача фэйкавай справы палягала ў тым, каб напалохаць завадатараў, актывістаў гэтых пратэстаў, а таксама і масу абывацеляў. Тым, хто заклікаў выходзіць на вуліцы, паказалі, што па іх турма плача. А масе простых грамадзян ударылі па мазгах грымучай прапагандысцкай сумессю. У гэтым фэнтэзі фігуравалі і прарыў джыпа са зброяй праз мяжу з боку Украіны, і сховы з арматурай для забурэнняў, і таямнічая фрау А. з Берліна, якая нібыта і выкрыла зласнесныя планы дэструктыўных элементаў, што набраліся майданнага духу.

Спецслужбы і прапаганда, працуючы ў адной запрэжцы, эксплуатавалі засцярогі беларусаў, каб у нас не адбылося такіх трагічных, крывавых падзей, як ва Украіне. Стаўка была зроблена на дыскрэдытацыю самой ідэі вулічнай барацьбы супраць палітыкі ўлад.

Тыя страшылкі, растыражаваныя дзяржаўнымі медыямі, апрыёры парушалі прэзумпцыю невінаватасці. Сёння ж высвятляецца, што дзяржаўныя СМІ з падачы “органаў” распаўсюджвалі проста хлусню і паклёпы. Але ці адкажа хтосьці за брудныя пасквілі? Пытанне рытарычнае. І справа не ў тым, што аўтары падобных вырабаў хаваюцца за шырмай ананімнасці, а ў тым, што сістэма сваіх не здае.

Спецслужбы ж аказаліся ў ролі таго казачнага пастушка, што раз за разам крычаў “Ваўкі! Ваўкі!”, між тым як драпежнікаў не было. Вось цяпер грымнуў шпіёнскі скандал з затрыманнем грамадзяніна Украіны. Хто ведае, можа, у гэтым выпадку акурат і няма дыму без агню, але ці шмат веры заявам беларускага КДБ пасля такіх эпічных фэйлаў, як справа “Белага легіёна”?

“*Мы мяркуем, што ў гэтай справе пастаўлена кропка*”, – заявіў сёння кіраўнік Следчага камітэта.

Кропка кропкай, аднак просяцца пытальнікі. І самае вялікае пытанне: а ці апошняя гэта сфабрыкаваная справа? Раз за разам мы бачым, што як толькі ўладзе прыпякае, у ход ідзе падобны інструментарый, белымі ніткамі шыюцца відавочна палітычныя абвінавачанні, некага абіраюць на ролю ворагаў народа.

Адно што ў параўнанні з 1937 годам наша рэчаіснасць усё ж гуманізавалася. Тады лёс ахвяр быў фатальны, сёння ж, як бачым, магчымы варыянты. Грамадства стала іншае. Потым, адрозна ад сталінскага СССР, Беларусь – не надта вялікая і не надта магутная краіна ў цэнтры Еўропы, між полюсамі сілы. Рэжым зацікаўлены ў заходніх грашах і тэхналогіях, таму змушаны ўсё ж улічваць думку еўрапейскіх дэмакратый, ЗША і не перагінаць з брутальнасцю.

Звыш таго, у эпоху постпраўды ўладам найважней стварыць медыйны эфект, забяспечыць патрэбнае ўздзеянне на псіхалогію масы ў патрэбны момант (у нашым выпадку – збіць пратэстныя настроі, падвесці базу пад брутальны разгон Дня Волі, рэпрэсіі супраць апазіцыі). А потым – ну мы ж не звяры якія! – фігурантаў высмактанай з пальца справы можна цішком выпусціць. Хай, маўляў, яшчэ радуюцца, што так абышлося.

Карацей, гэтакі сталінізм-лайт. Гісторыя паўтараецца ў выглядзе фарсу. Фрау А. з Берліна застанецца ў выглядзе мема, як і здохлыя пацукі (каторымі апазіцыя нібыта мелася атруціць вадаправод), прыдуманыя спецслужбамі перад Плошчай-2006.

Смех смехам, але такія фэйкі і сфабрыкаваныя справы азначаюць, што ў нас пакуль не пахне прававой дзяржавай. Што службы ўлады разбэшчаныя свабодай рук. Што любога могуць зрабіць вінаватым ні за што. Утаптаць у бруд, выставіць пудзілам, знішчыць бізнес, кар’еру, рэпутацыю. І тыя, хто гэта робіць, адчуваюць поўную беспакаранасць, бо сістэма сваіх не здае.

СМОТРИТЕ, КТО УШЕЛ

## «Создать такую систему мог только самостоятельный, независимый в суждениях и поступках человек»

*Бессменный директор Республиканского института контроля знаний (РИКЗ)* ***Николай Феськов*** *покинул свой пост по соглашению сторон.*

Институт контроля знаний занимается подготовкой и проведением централизованного тестирования.

С чем может быть связана эта отставка? Феськов руководил РИКЗ 15 лет, знал все тонкости своей работы. Известный в стране репетитор **Евгений Ливянт** не исключает, что в скором времени изменится механизм поступления в вузы.



– *По сути, система ЦТ, которую организует Республиканский институт контроля знаний, – это, на мой взгляд, единственный работающий механизм в нашей системе образования, причем этот механизм постоянно регулировался и улучшался, пусть и не так быстро, как хотелось,* – считает Евгений Ливянт. – *Но удивительным является тот факт, что он вообще существовал и хорошо работал. Именно благодаря Николаю Феськову вступительные экзамены в вузы принципиально отличаются от всех остальных видов экзаменов для школьников. И я очень боюсь, что теперь этих отличий не будет. Кроме этого, Министерство образования задумало скороспелую и непродуманную трансформацию системы вступительных экзаменов, а значит, стоит ждать серьезных системных сбоев в организации вступительной кампании уже в 2018 году.*

По мнению Ливянта, создать такую систему вступительных экзаменов «мог только сильный, самостоятельный, независимый в суждениях и поступках человек».

– *К сожалению, в системе образования катастрофически не хватает руководителей, которые могут сказать «Нет, нельзя!»*, – убежден репетитор. – *Нельзя за короткий срок создать нормальный учебник или поменять школьную программу, нельзя непродуманно менять время начало уроков, нельзя по любым поводам снимать учеников с занятий, нельзя менять систему ЦТ, когда учебный год уже начался....*

Стоит отметить, что Николаю Феськову 71 год.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ПЕРСОНА



*Мастацкая гімнастыка – яркі і вельмі прыгожы від спорту. Здаецца, што прыгажуні-спартсменкі маюць неверагодныя, фантастычныя здольнасці і магчымасці іх цела неабмежаваныя. Грацыя. Пластыка. Лёгкасць. Зорка беларускай мастацкай гімнастыкі* ***Меліціна Станюта*** *расказвае, чаму яна ў 23 гады вырашыла завяршыць кар’еру, чым займаецца сёння, а таксама дзеліцца ўспамінамі пра легендарную прабабулю Стэфанію.*

**(Чытайце на 6-й стар.)**

ПОСТФАКТУМ

*Візіт Нурсултана Назарбаева: пачатак новага супрацоўніцтва Беларусі з Казахстанам?*



* * *

*Сумеснае пасяджэнне ў Мінску саветаў міністраў абароны і замежных спраў і Камітэта сакратароў саветаў бяспекі АКДБ: ці ўмацуецца калектыўная бяспека і хто ёй пагражае?*

СКАЗАНА!

Міхаіл РУСЫ, віцэ-прэм’ер:

## «Рэнтабельнасць малака ў лепшых сельгасарганізацыях Беларусі параўнальна з нафтавым бізнесам»



Так выказаўся ўчора намеснік кіраўніка ўрада падчас сумеснага пасяджэння абедзвюх палат Нацыянальнага сходу. Ён адзначыў, што мадэрнізацыя малакаперапрацоўчай галіны дазволіла размясціць больш за 60% ад агульнага пагалоўя малочных кароў на высокатэхналагічных фермах, забяспечыўшы выхад на рэнтабельную вытворчасць і высокую якасць малака. Рэнтабельнасць вытворчасці малака ў 2016 годзе склала ў цэлым па краіне больш за 14%, а ў лепшых гаспадарках – 35–50%, удакладніў Русы.

«Гэта падобна да нафтавага бізнесу. Малако – гэта наша валюта», – заявіў чыноўнік.

РАЗВІТАННЕ



## Бывай, Іван Пятровіч!

У апошні год яго здароўе моцна пахіснулася. Але не было дня, каб **Іван Пятровіч Макаловіч** не завітаў у рэдакцыю. Незаўважна заходзіў у вялікую залу, дзе месцяцца амаль усе супрацоўнікі, і гэтак жа незаўважна працаваў, прапаноўваючы самыя розныя матэрыялы.

Яго багаты жыццёвы вопыт дазваляў нестандартна глядзець на самыя розныя падзеі, глыбока аналізаваць факты, заўважаць тое, чым трэба даражыць кожны дзень. Яго шлях – ад шараговага калгасніка, ад салдата, ад студэнта да кіраўніка высокага ўзроўню. Пасля ўніверсітэта працаваў у абласной газеце “Мінская праўда” , затым у “Звяздзе”, дзе быў загадчыкам аддзела, намеснікам рэдактара і галоўным рэдактарам. Два гады кіраваў Дзяржаўным камітэтам БССР па друку.

Іван Пятровіч Макаловіч усёй душой успрыняў Незалежнасць Беларусі, ён не толькі марыў пра росквіт краіны, адраджэнне яе самабытнай культуры, гісторыі, але і шмат зрабіў для гэтага, працуючы з 1990 года спачатку намеснікам рэдактара ў парламенцкай “Народнай газеце”, а затым, з 1995 года, намеснікам галоўнага рэдактара газеты “Народная Воля”.

Здаецца, толькі ўчора Іван Пятровіч патэлефанаваў з дому і ціхім голасам, без скаргі на здароўе сказаў: “Беражыце “Народную Волю”!”. Мы, супрацоўнікі рэдакцыі, зразумелі гэтыя яго словы як запавет. 29 лістапада на 78-м годзе яго сэрца спынілася.

Нельга не сказаць: вялікі дзякуй, Вам, Іван Пятровіч, за самаадданую працу на карысць Айчыны, на карысць “Народнай Волі”! Будзем заўжды помніць Вашу сціпласць, шчырасць, Вашу дабрыню і будзем усё рабіць для таго, каб зберагчы “Народную Волю”.

Няхай стане пухам для Вас родная зямля!

**Калектыў рэдакцыі газеты “Народная Воля”.**

**Мы, народавольцы, выказваем глыбокае спачуванне Людміле Андрэеўне Макаловіч, сынам Ігару і Уладзіміру ў сувязі са смерцю мужа і бацькі.**

ПРЯМАЯ РЕЧЬ

Анатолий МИХАЙЛОВ,
академик, основатель и президент ЕГУ:

## «13 с половиной лет я не был в Беларуси»

Европейский гуманитарный университет переживает сегодня нелегкие времена. Вуз снова ищет нового ректора, объявлен конкурс.

Почти три года – после отставки с поста ректора – основатель ЕГУ Анатолий Михайлов не давал никаких комментариев по поводу того, что происходит в университете. «Я и сегодня не всегда снимаю трубку мобильного телефона, когда высвечивается белорусский номер, – честно признается Анатолий Арсеньевич. – Слишком много грязи вылито на меня…»



**– Но звонить с родины могут разные люди, и ваши сторонники в том числе… Хоть раз с того момента, как белорусские власти закрыли ЕГУ, вы приезжали в Беларусь?**

– Никогда. 13 с половиной лет, с апреля 2004 года, я не был в Беларуси.

**– Чего-то опасаетесь? Недавно сторонник и правая рука Зенона Позьняка Сергей Наумчик посетил Беларусь после 20 лет политэмиграции, и никто его тут не задерживал, его безопасности никто не угрожал…**

– Дело не в этом…

Еще в 1990-е годы один из ведущих белорусских оппозиционеров говорил, что Михайлов – враг белорусского народа, пусть он уезжает из Беларуси. Власти потом этому посодействовали. Я оказался чужим для Беларуси. Вытеснили…. Первое время было нелегко, непривычно. Я вырос в Минске, все там родное, знакомое. Но сегодня меня там никто не ждет. Приеду я в Минск и что?

**(Окончание на 2-й стр.)**

